**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№52(664)**
**27 снежня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

*Віншуем з Новым 2013 годам!*

vglybokaye@tut.by

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае



Глыбокае ў навагоднюю ноч.

*Здымак Ул. Скрабатуна.*

### Шаркоўшчынскі раён

# Не са сваёй кішэні

■ Чэслаў Якубовіч

**Пасля нядаўняга адкрыцця адным з самых прыгожых у райцэнтры Шаркаўшчына стаў новы будынак райбальніцы пад сіняй чарапіцай.**

На цырымоніі яго ўрачыстага адкрыцця з гонарам гаварылася, што на стварэнне сучаснага цэнтра аховы здароўя было патрачана больш 40 млрд. рублёў, у асноўным з абласнога бюджэту. Сапраўды, было многае тут зроблена, каб з'явіліся бальніца на 165 ложкаў і райпаліклініка, разлічаная на прыём 200 пацыентаў за змену. Аднак неўзабаве праверка Дзяржкантролю Віцебскай вобласці ўстанавіла, што за ходам узвядзення шпіталя на працягу доўгіх 15 гадоў адсутнічаў належны кантроль. У выніку спецыялісты выявілі многія факты завышэння кошту работ. У прыватнасці, прыгожая агароджа з металу стала даражэй амаль на 153 млн. рублёў, бо сячэнне металаканструкцый на паперы было завышана ўсяго толькі на 1 мм, і пераплацілі ў выніку за 2 тоны лішняга металу, прыпісалі устаноўку 7 слупоў і столькі ж металічных секцый. Іх прадпрыемства-вытворца таксама завысіў на 87,7 млн. рублёў кошт секцый агароджы з-за аднясення да адходаў загатовак металу. Ні заказчык аб'екта, ні спецыялісты тэхнагляду, ні адказны выканаўца работ – прараб не заўважылі завышэння кошту работ па ўсталяванні падлогі ў радзільным аддзяленні. Толькі на паперы генпадрадчык – трэст "Полацксельбуд" выканаў работы на 11 млн. рублёў у гэтым аддзяленні. Дарэчы, на ўзвядзенні райбальніцы ў Шаркаўшчыне працавалі больш дзесяці розных будаўнічых арганізацый і, як было ўстаноўлена, незаконна было пералічана 25 млн. рублёў аднаму з падрадчыкаў за ліпавы раз'язны характар работ, бо лёгка расходваць грошы не са сваёй кішэні.

### Докшыцкі раён

# Тонкі лёд – забойца

■ Станіслаў Раманчук

**Штогод у пачатку зімы даводзіцца бачыць дзіўны малюнак: не паспеюць вадаёмы пакрыцца тонкім лёдам, як туды ўжо рвуцца адчайныя рыбакі.**

Вось і некалькі жыхароў Докшыцкага раёна ў свой выхадны таксама вырашылі адпачыць такім чынам на прыродзе. Паколькі ў Бярэзінскім краі азёр зусім небагата, паехалі на лясное возера Халасеньскае, што ў суседнім Пастаўскім раёне паблізу вёскі Сяргеевічы. Яшчэ быў ранішні змрок, калі маладыя хлопцы на лыжах аддаліліся ад берага. Але які можа быць лёд у пачатку каляндарнай зімы, бо і сапраўдных маразоў яшчэ не назіралася. У выніку неўзабаве людзі апынуліся ў ледзяной пасткі, іх кінуліся ратаваць калегі па зімовай рыбалцы. Адзін з іх патэлефанаваў дзяжурнаму Мядзельскага райаддзела МНС, які прыняў сігнал пра тунку. На дапамогу адразу ж накіраваліся выратавальнікі і спецыялісты-вадалазы таварыства выратавання на вадзе з Пастаў і Докшыц, брыгада ўрачоў хуткай дапамогі. Удалося выратаваць толькі траіх рыбакоў, а вось два 32-гадовыя хлопцы з Докшыцкага раёна, на жаль, загінулі. Па іроніі лёсу, адзін з загінулых сур'ёзна захапляўся рыбнай лоўляй, меў свой спецыялізаваны рыбны магазін у райцэнтры. Адной з ахвяр тонкага лёду ўдалося нават выбрацца на лёд, але ён пачаў паўзці і зноў праваліўся. Яшчэ аднаго пацярпелага прыйшлося шпіталізаваць з-за моцнага пераахаладжэння арганізма, а двое адмовіліся ад такой дапамогі медыкаў. Пасля гэтай трагедыі ў Беларусі могуць увесці адміністрацыйную адказнасць за з'яўленне на вадаёмах, дзе яшчэ тонкі лёд.

### Пастаўскі раён

# Ні грошай, ні работнікаў

■ Кастусь Александровіч

**Дзякуючы намаганням праваахоўных органаў цяпер штогод у Прыдзвінні стала адназначацца зніжэнне ўзроўню злачыннасці.**

А адным з самых спакойных рэгіёнаў вобласці стаў Пастаўскі раён, дзе аднак, як і ў суседзяў, не ўдаецца справіцца з крадзяжамі, якія фіксуюцца практычна штодзень. Раскрыць многія такія злачынствы не ўдаецца, аднак мясцовыя аператыўнікі пастараліся і па гарачых слядах раскрылі гучнае абрабаванне ноччу ахоўваемых складоў райпо. Як было ўстаноўлена, сюды пад раніцу залезлі трое маладых, раней судзімых гараджан, з якіх самаму старэйшаму споўнілася толькі 24 гады. Яны забралі адтуль 75 бутэлек каньяку і гарэлкі з закускай на суму больш 7 млн. рублёў. Аднак троіцы доўга паціраваць не прыйшлося і яна зноў пойдзе пад суд. Прама на месцы злачынства апергрупа затрымала і двух жыхароў суседняга Глыбоцкага раёна, якія ў вёсцы Гайдукі хацелі пажывіцца металам з былой школьнай кацельні, але не паспелі гэтага зрабіць. На жаль, у шэрагу падобных выпадкаў выйсці на след зламыснікаў не заўсёды атрымоўваецца. Трэба будзе паламаць галаву, хто змог з кругласутачна ахоўваемых майстэрань сельгаспрадпрыемства "Вярэнькі-агра" спёрці дызельны рухавік. Цяжка таксама будзе выявіць, хто з мярзотнікаў абрабаваў дачы жыхароў Мінска ў вёсках Шабаны і Саранчаны, з адной з іх украў нават 3 шклопакеты. З надыходам халадоў у самім райцэнтры дзёрзкім чынам былі абкрадзены два гаражы, з якіх укралі ўсе каштоўнасці, уключаючы сістэмны блок камп'ютара, акумулятар і веласіпед.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 27.12.12 | | | | Пятніца 28.12.12 | | | | Субота 29.12.12 | | | | Нядзеля 30.12.12 | | | | Пнд.31.12.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | -1 | -2 | 0 | -1 | 0 | -4 | -3 | -4 | -4 | -4 | -3 | -5 | -2 | -2 | -1 | -4 | -2 | -1 |
| Ціск | 741 | 739 | 737 | 735 | 735 | 736 | 737 | 742 | 747 | 749 | 749 | 748 | 748 | 747 | 745 | 744 | 744 | 743 | 744 |
| Вільготнасць | 81 | 88 | 81 | 84 | 81 | 80 | 72 | 79 | 75 | 79 | 68 | 78 | 78 | 87 | 73 | 72 | 70 | 91 | 74 |
| Вецер м/сек | 4 Пд-З | 4 З | 3 Пд-З | 6 Пд | 6 Пд-З | 8 З | 7 З | 9 З | 10 Пн-З | 9 З | 5 З | 3 З | 3 З | 4 З | 2 Пд | 3 Пд | 4 Пд | 6 Пд-З | 6 З |

# Аб самым надзёным

## Айчынная эканоміка атрымала чарговую фінансавую падтрымку, нягледзячы на невыкананне праграмы прыватызацыі



■ Аляксандр Цішкевіч

**А вось цяпер нават на самым версе зразумелі, што для большасці беларускіх прадпрыемстваў патрабуецца хутчэйшая мадэрнізацыя, інакш нашы тавары стануць зусім неканкурэнтназдольнымі з-за іх нізкай якасці.**

Да канца гэтага года заставалася зусім небагата часу, але так і не вырашаліся спрэчныя пытанні наконт павелічэння аб'ёмаў паставак расійскай нафты на беларускія ПНЗ у Наваполацку і Мазыры ў 2013 годзе. Менавіта з-за гэтага фактару, пасля спынення пад ціскам Масквы айчыннага бізнесу растваральнікаў сёлета ў другім паўгоддзі сур'ёзна пагоршыліся паказчыкі знешняга гандлю Беларусі. Толькі ў кастрычніку атрымалі беларусы рэкордна адмоўнае сальда выручкі ад такіх аперацый у памеры амаль 475 мільёнаў долараў.

Між тым такая трывожная сітуацыя ў знешнім гандлі развіваецца, пачынаючы са жніўня на працягу 3 месяцаў запар. Аказваецца, ніякі мы "зборачны цэх", а зарабляем валюту за мяжой пераважна ад продажу нафтапрадуктаў і тых жа калійных угнаенняў. Праўда, і з каліем выйшаў пэўны аблом з-за пагаршэння сітуацыі на сусветным рынку гэтых угнаенняў і невыпадкова была праведзена нарада ў прэзідэнцкай рэзідэнцыі па гэтым пытанні. У выніку стала відавочна, наколькі беларусы залежаць ад свайго ўсходняга суседа, асабліва калі ўзніклі пэўныя супярэчнасці ў адносінах паміж лідарамі ( зусім невыпадкова беларускі кіраўнік у інтэрв'ю агенцтву Рэйтар прагаварыўся аб праблемах са здароўем У. Пуціна).

Але на шчасце, у пачатку снежня са згоды той жа Расіі праўленне Савета Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС усё ж выдзеліла Беларусі 4-ты па ліку крэдыт фінансавай дапамогі ў памеры 440 мільёнаў долараў. Нагадаем, яшчэ летам крызіснага 2011 года нам паабяцалі крэдыт на суму 3 мільярды долараў тэрмінам на 10 гадоў пагашэння, які выдзяляецца 6 траншамі пры выкананні РБ пэўных умоў. У прыватнасці, сёлета наша краіна павінна была прыватызаваць дзяржуласнасці на 2,5 мільярда долараў. У гэтым накірунку беларусы асаблівай актыўнасцю не вызначаюцца ды і замежныя інвестары да нас не спяшаюцца.

Але расійскі Мінфін зрабіў выгляд, што Беларусь выконвае свае абавязкі па выкананні антыкрызіснай праграмы і паабяцаў хуткае паступленне так неабходнай нам валюты. Як заявіў міністр фінансаў РФ Антон Сілуянаў, пытанні прыватызацыі ў Беларусі будуць улічвацца пры выдзяленні наступнага 5-га транша крэдыта ў будучым годзе. Як і заключны 6-ты транш (абое па 440 мільёнаў долараў), гэтыя грашовыя займы паступяць нам, калі пачнуцца нарэшце ў Беларусі структурныя рынкавыя рэформы, а таксама прыватызацыя.

Акрамя таго, беларускі ўрад абавязаны будзе давесці ўзровень пакрыцця насельніцтвам камунальных паслуг ЖКГ да 35 % сабекошту, а тарыфы на праезд у грамадскім транспарце – да 85 % рэальных затрат (абавязковы паказчык для атрымання 5-га траншу). Вось з гэтым, хутчэй усяго, не будзе ніякіх праблем, цэны ў нас растуць пастаянна. А ў цэлым, у Беларусі забяспечваецца, як вядома, "стабільнасць", хоць і бываюць час ад часу абвалы рубля, гіперінфляцыя.

А вось цяпер нават на самым версе зразумелі, што для большасці беларускіх прадпрыемстваў патрабуецца хутчэйшая мадэрнізацыя, інакш нашы тавары стануць зусім неканкурэнтназдольнымі з-за іх нізкай якасці. Асабліва ў гэтым плане "пашчасціла" 9 айчынным дрэваапрацоўчым прадпрыемствам, работнікаў якіх перавялі Дэкрэтам № 9 на асаблівую кантрактную форму найму з забаронай звальнення без згоды кіраўніцтва да заканчэння іх мадэрнізацыі.

Верагодна, сітуацыя ўжо становіцца зусім трывожнай, калі прымаюцца такія крутыя меры. Пакуль жа трэба прызнаць, што Беларусь, як і тая ж Расія, вельмі залежыць ад кан'юнктуры сусветных цэн на "чорнае золата". Попыт існуе ў далёкім замежжы толькі на беларускія нафтапрадукты, калійныя ўгнаенні, а вось асноўныя высокатэхналагічныя тавары айчыннай прамысловасці і нават мясапрадукты ўдаецца прадаваць толькі ўнутры СНД і найперш самой Расіі, на долю апошняй прыпадае нават 32,9 % цяпер экспартных паставак.

Аднак гэта не зусім добра, калі існуе такая татальная залежнасць Беларусі ад імпарту нафты з расійскіх прастораў, а нашы партнёры дыктуюць нам свае ўмовы.

## Дзень за днём

**З пачатку года ў Беларусі колькасць будаўнікоў скарацілася яшчэ на 8 %, сталі зацягвацца тэрміны ўзвядзення аб'ектаў і жылля, на якое болей не будзе льготных крэдытаў. З-за крызісу будаўнічай галіны не ўдалося нават наблізіцца да стварэння 9 гарадоў-спутнікаў вакол сталіцы. Да заканчэння мадэрнізацыі дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў Лукашэнка забараніў звальняць адтуль работнікаў, такіх парушальнікаў могуць пакараць прымусовымі работамі. За 10 месяцаў сёлета дзяржаўны доўг РБ узрос яшчэ на 275,6 млн. USD і дасягнуў 12,1 млрд. долараў. Студэнтам у Мінску не будуць вяртаць бясплатны праезд па мегаполісу. Новы 2013 год аб'яўлены ў Беларусі Годам беражлівасці, але падаражэе на 20 % мабільная сувязь, доступ у Інтэрнет.**

# Важнейшыя навіны свету

**Егіпет.** У краіне зноў сур'ёзна накалілася абстаноўка пасля адабрэння ісламісцкай Канстытуцыйнай асамблеяй праекта новай Канстытуцыі з пашырэннем норм шарыяту.

**ЗША.** Дзярждэпартамент ЗША выказаў абурэнне пастаўкамі Расіі рэжыму Б. Асада не толькі ваенных узбраенняў, але і замежнай валюты, што публічна прызналі сірыйцы.

**Украіна.** Французскія інжынеры пачалі работы 1-га этапа па ўзвядзенні новага саркафага, грандыёзнай аркі вышынёй 108 метраў і вагой 25 тыс. тон над Чарнобыльскай АЭС.

**Палесціна.** Жыхары аўтаноміі з энтузіязмам віталі рашэнне Генасамблеі ААН, якая большасцю галасоў павысіла іх статус да дзяржавы-назіральніка, супраць былі 9 краін.

**Францыя.** Простыя людзі і партыі падтрымалі ўльтыматум урада краіны буйнейшай у свеце сталеліцейнай кампаніі Arcelor Mittal захаваць працоўныя месцы на яе заводзе.

**Егіпет.** Суд Каіра асудзіў да смерці завочна сямёра хрысціян, якія зняліся ў ЗША ў фільме "Цнатлівасць мусульман", стужка выклікала моцныя абурэнні мусульман у свеце.

**Малдова.** Прэзідэнт Еўракамісіі Жозе Барозу заявіў, што малдаван чакае еўрапейская будучыня, асацыяцыя з ЕС і стварэнне восенню 2013 года зоны свабоднага гандлю.

**Арменія.** Краіна падпісала пагадненне з ЕС аб увядзенні спрошчанага візавага рэжыму для сваіх грамадзян, да канца 2013 года падпіша з ЕС дагавор аб зоне свабоднага гандлю.

**Кыргыстан.** Далучэнне краіны да Мытнага саюза РФ, РБ і Казахстана, як пацвердзіў дарадца прэзідэнта Расіі Сяргей Глаз'еў, адбудзецца ў бліжэйшыя два гады.

**Польшча.** Па рашэнні суда Падляскага ваяводства паліцыя арыштавала 37-гадовага беларускага вадзіцеля-дальнабойшчыка, віноўніка ДТЗ, у якім загінулі трое палякаў.

**Расія.** Замаскварэчны суд Масквы прызнаў экстрэмісцкімі відэаролікі выступлення скандальнай панк-групы Pussy Riot у храме Хрыста Збаўцы, іх выдаляць з Інтэрнета.

**Аўстралія.** Краіна першай у свеце ўвяла вельмі страшную аднолькавую пакоўку цыгарэт з малюнкамі цяжка хворых людзей ад шкоднай звычкі, якая штогод забірае тут 15 тысяч.

**Японія.** Раніцай у прэфектуры Яманасі ў выніку абрушэння 100-метровай стальной балкі даху аўтамабільнага тунэлю загінулі пад заваламі 9 чалавек з трох аўтамабіляў.

**Украіна.** Вядомы прадзюсар К. Меладзе аб'явіў аб спыненні з 1 студзеня дзейнасці папулярнай у СНД групы "ВІА Гра", яна спявала 13 гадоў, праз яе прайшлі 13 салістак.

**Італія.** Моцны смерч з мора наляцеў на горад Таранта, разбурыў буйнейшы ў Еўропе сталеплавільны завод, параніў дзясяткі чалавек, ад стыхіі пацярпелі многія на Апенінах.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Кіраўнік Нацбанка РБ Н. Ермакова прызнала, што ў 2013 годзе будуць праблемы з пагашэннем ранейшых крэдытаў пад 3мільярды долараў, трэба зноў недзе пазычаць валюту.

**Абчак.** На заводзе ЗАТ "Юнісон" ля сталіцы сабралі першы легкавы кітайскі аўтамабіль Zotye Z 300 на базе платформы Toyota і з маторам Mitsubishi 1,6 літра стандарту Еўра-4.

**Баранавічы.** Днём на трасе Брэст-Масква паблізу райцэнтра міліцыя затрымала траіх гараджан, у машынах якіх было знойдзена і канфіскавана 4,3 тоны спірту без дакументаў.

**Гродна.** Па справе журналіста польскай "Газеты выборчай" Андрэя Пачобута прыпынілі следства і прызначылі 4-ю па ліку лінгвістычную экспертызу яго надрукаваных артыкулаў.

**Мінск.** Па сталіцы ў картэжы кіраўніка РБ пачаў ездзіць самы дарагі ў свеце аўтамабіль "Майбах" коштам пад 0,5 мільёна еўра, кажуць падарунак А. Лукашэнку ад алігарха з РФ.

**Лоеў.** Падчас рыбалкі на рацэ Днепр паблізу райцэнтра перакулілася лодка з трыма рыбакамі, з іх 48-гадовы мужчына загінуў, двaіх іншых рыбакоў выратавалі і даставілі ў райбальніцу.

**Брэст.** Дырэкцыя нацпарка "Белавежская пушча" ў цэнтральнай частцы ляснога масіва абсталявала 3 праходы для зуброў, каб яны не тапіліся вясной у меліярацыйных каналах.

**Ваўкавыск.** У райбальніцу тэрмінова шпіталізавалі двзюх жыхарак Зельвы ва ўзросце 27 і 52 гады, якія атрымалі траўмы, калі раніцай аўтобус з пасажырамі перакуліўся на дарозе.

**Курапаты.** Усяго толькі тры дні прастаяў тут хрысціянскі крыж, паўторна ўстаноўлены ў памяць расстраляных сталінскім рэжымам польскіх афіцэраў, як зноў нейкія мярзотнікі скралі яго .

**Жыткавічы.** Днём пасярод працоўнага дня невядомы злодзей украў з замкнёнай вітрыны універмага ў райцэнтры 22 залатыя ювелірныя ўпрыгожванні на суму 78 мільёна рублёў.

**Мінск.** Цэны на здымныя кватэры ў сталіцы выраслі яшчэ на 25-30 %, жыллё, асабліва ў новабудоўлях, амаль перасталі здаваць у арэнду, шэраг інтэрнатаў закрылі на рамонт.

**Баранавічы.** На ўсю краіну стаў вядомы інжынер станкабудаўнічага завода "Атлант" У. Лаворык, які ва ўзросце 37 гадоў уступіў у члены БРСМ і лічыць сябе камсамольцам .

**Гродна.** Знакаміты польскі рэжысёр Кшыштаф Зануссі заявіў, што ўсе беды беларусаў ад таго, што яны жывуць не ў сучасным грамадстве і не ўсвядомілі, што народ – гэта сіла.

**Івацэвічы.** Невядомы мярзотнік пранік у царкву Прасвятой Багародзіцы ў вёсцы Быцень і скраў з храма 3 асноўныя іконы, крыж з металу і хрысціянскую скрыню з латуні.

# Прадпрыемствам прапануюць правяраць супрацоўнікаў алкатэстарамі




■ БелаПАН

**Міністэрства працы Беларусі прапаноўвае на заканадаўчым узроўні замацаваць норму, якая давала б права работадаўцам правяраць сваіх супрацоўнікаў з дапамогай алкатэстараў.**

Пра гэта 21 снежня паведаміў намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Ігар Старавойтаў.

Прапанова Мінпрацы матываваная тым, што алкагольнае ап'яненне часта з'яўляецца прычынай няшчасных выпадкаў на вытворчасці, растлумачыў Старавойтаў. Праверку алкатэстарам на прадмет знаходжання работніка ў стане алкагольнага ап'янення ці ў стане, выкліканым ужываннем наркатычных сродкаў, псіхатропных, таксічных ці іншых адурманьваючых рэчываў, прапаноўваецца праводзіць «пры наяўнасці дастатковых падстаў — паху алкаголю з рота, парушэння рэчы, цяжкасцяў пры захоўванні раўнавагі і іншых», падкрэсліў намеснік міністра падчас анлайн-канферэнцыі на сайце БелТА.

Ён зазначыў, што законам «Аб ахове працы» ўстаноўлена: работадаўца абавязаны не допускаць да выканання работ (аказання паслуг), адхіляць ад выканання работ у адпаведны дзень (змену) працуючага, які з'явіўся на працоўнае месца ў стане алкагольнага, наркатычнага ці таксічнага ап'янення,а таксама ў стане, звязаным з хваробай, якая перашкаджае выкананню работ (аказанню паслуг).

Зараз, паведаміў Старавойтаў, кантроль стану работнікаў прадугледжаны толькі ў дачыненні да вадзіцеляў транспартных сродкаў.

Паводле інфармацыі першага намесніка дырэктара дэпартамента дзяржаўнай інспекцыі працы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Аляксандра Семіча, за з'яўленне на працы ў стане алкагольнага ап'янення і распіванне спіртных напояў у 2011 годзе ў Беларусі былі звольненыя 13.672 чалавекі. «Міністэрства працы і сацабароны неаднаразова прапаноўвала ўвесці забарону продажу алкагольных напояў асобам у спецыяльным засцерагальным адзенні», — падкрэсліў Семіч.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На базе абутковай кампаніі "Марко" вырашана стварыць новы скура-абутковы холдынг з далучэннем да яго Віцебскага мехавога камбіната і шэрагу прадпрыемстваў.

**Наваполацк.** Урад РБ гатовы, як заявіў 1-ы віцэ-прэм'ер У. Сямашка, аднавіць перамовы найперш з інвестарамі з Расіі аб продажы акцый "Нафтана" і яго партнёра – "Паліміра".

**Віцебск.** Па праграме імпартазамяшчэння мясцовы пладоваагародны камбінат пачаў выпуск на новай лініі дзіцячых мясных і рыбных кансерваў "Ноўка" з гароднінай.

**Полацк.** Важнейшы для горада аб'ект – новы дзіцячы сад на 200 месцаў, планавалася здаць у канцы года, але з-за недахопу фінансаў не паспелі нават накрыць яго каробку.

**Глыбокае.** Райцэнтр зноў наведаў віцэ-прэм'ер урада РБ Анатоль Тозік, сустрэўся ў СШ №1 з педкалектывам раёна, дзе ў ходзе сустрэчы паведаміў аб скарачэнні дзяржапарату, малакамплектных школ.

**Паставы.** Пасля праведзенай сертыфікацыі малочны завод атрымаў права выпускаць асноўныя віды прадукцыі малако, кефір і смятану са знакам якасці "натуральны прадукт".

**Талачын.** На адным са старэйшых прадпрыемстваў раёна ААТ "Коханава" пачалася працэдура ліквідацыі з-за поўнага зносу абсталявання і адсутнасці абаротных сродкаў.

**Віцебск.** Позна вечарам ля вёскі Копці 29-гадовы ўзбек зляцеў на аўто ў кювет і перавярнуўся, у ДТЗ загінуў яго зямляк, яшчэ двое грамадзян Узбекістана былі параненыя.

**Дуброўна.** Аднаму з самых малодых кіраўнікоў, 25-гадоваму дырэктару саўгаса "Зарубы" А. Зайцаву кіраўніцтва вобласці дапамагло пабудаваць авечкаферму на 2 тысячы галоў.

**Віцебск.** У кожнай вобласці, як заявіў міністр інфармацыі РБ А, Праляскоўскі, варта пакінуць па адной абласной масавапалітычнай газеце, зараз выдаюцца ў рэгіёне дзве.

**Гарадок.** На сваёй аграсядзібе "Вінаградная ўлітка" сям'я Касцюкевічаў абсталявала першы ў раёне міні-заапарк са стравусаў і іншых экзатычных птушак, казлоў з Камеруна.

**Докшыцы.** У вёсцы Рашкаўка выратавальнікі МНС дасталі з каналізацыйнага калодзежа глыбінёй 2 метры ў двары дома маладую кабылу, якая праваліласа праз гнілыя дошкі.

**Верхнядзвінск.** Вучаніца Боркавіцкай СШ Насця Сураўнёва стала пераможцай праекта газеты "Пераходны ўзрост" "Юныя журналісты Беларусі і РФ аб Саюзнай дзяржаве-2012".

**Полацк.** Медаллю Ф. Скарыны ўзнагародзілі салістку арганнага канцэртнага зала Сафійскага сабора Ксенію Пагарэлую, яна працуе тут больш 20 гадоў, гастралюе ў свеце.

**Віцебск.** У мясцовым заапарку пасяліліся навічкі – пара гадавалых аўстралійскіх кенгуру, якіх даставілі з Калінінграда, звяркі хутка прывыклі да новага месца жыхарства.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Новы год - не «по велению Петра»: беларусы адзначаюць Новы год з 1387 года

**Надыходзіць Новы год. Хутка ФМ-станцыі ды газеты каланіяльнай скіраванасці зноў пачнуць убіваць у галовы беларусам, што адзначаць яго 1 студзеня беларусы пачалі «по велению царя Петра», які ў 1700-м перавёў Расію на сучасны каляндар. А як было насамрэч? Калі дзень 1 студзеня стаў лічыцца першым днём новага года?**

Вядома, што ў старажытных землярробскіх супольнасцях год пачынаўся ў сакавіку, з новай вясной, з новым цыклам работы ў полі. У візантыйскай традыцыі прынята было пачынаць год з верасня. «Гэта ішло ад даўніх грэцкіх і малаазійскіх культур», — тлумачыць гісторык Алег Дзярновіч. — Традыцыя ж лічыць год ад 1 студзеня пайшла з Старажытнага Рыму».

Запачаткаваў яе не хто іншы, як Юлій Цэзар, які быў у Рыме не толькі імператарам, але і вярхоўным жрацом. Рэфармуючы каляндар, ён перанёс пачатак года з сакавіка на студзень — месяц, прысвечаны богу Януарыю.

Гэта паганскае боства часу, пачатку і канца мела ва ўяўленні рымлянаў два абліччы. Януарый нібыта і аглядаўся на мінулы год, і глядзеў у будучыню.

Рымскі каляндар пашыраўся па свеце спачатку разам з рымскімі легіёнамі, пасля — з рымскай каталіцкай Царквой.

З Рыму ідзе і адна з традыцый святкаваць пачатак Новага года. Казус, які паслужыў прычынай для гэтага, быў звязаны з канцом свету.

Людзі чакалі, што з надыходам 1000 года нашай эры вырвецца на волю біблейская пачвара Левіяфан і скончацца зямныя часы. Аднак прабіла поўнач — і катастрофы не адбылося. Роспач у Рыме змянілася на ўсеагульную радасць і святкаванне.

У першы дзень Новага года Папа Сільвестр II упершыню сказаў прамову urbi et orbi — «гораду і свету». З таго часу яна стала традыцыйнай.

Царква раней найбольш пільнавала час: яна мусіла вылічваць даты рэлігійных святаў, тэрміны пастоў; пры манастырах вяліся хронікі.

Народ у масе сваёй да часу ставіўся менш пільна: гістарычная памяць вялікай часткі насельніцтва не сягала далей таго, што памятаў дзед ці прадзед — далей былі легендарныя часы.

На беларускую зямлю традыцыя пачынаць год ад 1 студзеня прыйшла разам з пераходам у каталіцтва пануючай дынастыі ды масавым хрышчэннем насельніцтва, – кажа Алег Дзярновіч.

Гэта мог быць Ягайлаў хрост 1387-га, калі вялікі князь, выконваючы абавязальніцтвы, узятыя на сябе падчас Крэўскай уніі, пераводзіў Літву з паганства ў хрысціянства рымскага абраду.

Значыць, можна сказаць, што ў Беларусь сучасны каляндар прыйшоў 625 гадоў таму.

З хуткімі святамі, дарагія чытачы!

***nn.by***

# Свет казак вакол дзяцей



■ **Фадзей Шымуковіч,** *настаўнік-пенсіянер, 77-гадовы дзядуля г. Дзісна.*

У сучасным свеце вельмі шмат жудаснай інфармацыі аб жорсткасці маладых людзей, якая нават прымяняецца да самых блізкіх сваякоў, нявыхаванасці пакалення, якое ідзе нам на змену. Але ж злымі не нараджаюцца, гэта нажыўное. Каб паспяхова змагацца з падобнымі праявамі, неабходна вызначыць прычыну. Маючы грунтоўны вопыт педагагічнай працы, магу сцвярджаць, што нашы дзеці на ранняй, дашкольнай стадыі развіцця атрымоўваюць вельмі мала станоўчых эмоцый. Адзін з асноўных вытокаў такіх эмоцый – казкі.

Звярніце ўвагу хаця б на тэрыторыі і гульнявыя пляцоўкі дзіцячых садоў: нярэдка галоўная іх маёмасць – груваcткія і прымітыўныя макеты ракет, паравозаў, машын. Ніякіх эмоцый падобныя пабудовы не выклікаюць у дзяцей, якія, лазячы па гэтых металічных агрэгатах, яшчэ і валяцца, атрымоўваюць траўмы. Грошы выкінуты на вецер. Што рабіць? У народзе кажуць: хто шукае – той знойдзе.

Тры гады назад пад уражаннем добраўпарадкавання я захапіўся малымі архітэктурнымі формамі. Спачатку выпільваў простыя рэчы з дрэва: рамонкі, васількі, сланечнікі, варону і лісіцу; ката, лісу і пеўніка. Імі зацікавілася загадчыца Туркоўскім дзіцячым садам Алена Мікалаеўна Сташкевіч. Яна папрасіла зрабіць кампазіцыю па матывах якой-небудзь казкі, якая выхоўвала б у дзяцей не толькі эстэтыку, але і фарміравала б любоў да працы, дамашніх жывёл і раслін. Выбралі "Рэпку". Кампазіцыю зрабіў не маналітную, а кожны герой быў асобнай фігуркай. Але ў працэсе гульні дзеці маглі як бы самі прымаць удзел у працэсе. Атрымалася быццам бы добра. І прыгожа, і цікава для дзяцей. Я не прыхільнік тыражыраваць свае вырабы, таму што гэта ўсяго толькі маё хобі, але для выхаваўчай карысці зрабіў яшчэ два экзэмпляры і падараваў Дзісненскаму і Папшулеўскаму садкам. Падарыў ім і многія іншыя вырабы на радасць дзецям.

У мінулым годзе захацелася мне каля штучнага міні - вадаёма зрабіць кампазіцыю па казцы "Залатая рыбка". Матэрыялам паслужылі адходы дошак, нават мяшок-сетка ад кукурузных палачак стаў невадам. Мой трохгадовы ўнук Матвей, пазнаёміўшыся з кампазіцыяй, загадаў дастаць "залатую рыбку" з невада і доўга не развітваўся з ёй, нават у час сну яна ляжала ў яго ў ложачку.

Прыйшлося зрабіць яшчэ дзве такія кампазіцыі і падарыць садзікам. Тады ж з'явілася кампазіцыя "Лебедзь, рак і шчупак", "Варона і лісіца" – па баснях Крылова, "Вавёрка песенькі пяе, залаты арэх грызе" і "У Лукамор'я дуб зялёны" – па творах Пушкіна. У апошнім – сем элементаў: кот вучоны, на залатым ланцугу, лясун, русалка на галінках сядзіць, хатка на курыных ножках, ступа з Бабай Ягой ідзе-брыдзе сама сабой, у цямніцы царэўна смуткуе і буры воўк ёй верна служыць, там змей-Кашчэй над златам чахне. Запрасіў на экскурсію дзетсадаўцаў, хаця злёгку і хваляваўся, як бы дзеці не спужаліся Бабу Ягу і Кашчэя. Але выйшла наадварот – кожнаму хацелася пацягаць Бабу Ягу за бараду і праверыць вастрыню зубоў і кіпцюроў, зробленых з дроту ў Кашчэя. Маленькім наведвальнікам вельмі спадабалася. Выхавальнікі з цяжкасцю адвялі іх у садок, а я стаў для іх дзядулем-казачнікам. Давялося штосьці падарыць.

У гэтым годзе перайшоў на больш змястоўныя вырабы. Вырабіў кампазіцыю па казцы "Сіўка-Бурка" вышынёй 1,5м. Прычым, царэўну з дрэва з церама можна дастаць, а на яе месца пасадзіць дзяўчынку і сфатаграфаваць. Гэта ж патрэбна было бачыць шчаслівыя твары дзетвары.











У кампазіцыі "Папялушка" таксама драўляную Папялушку можна замяніць жывой дзяўчынкай. Вось толькі даў маху – патрэбна было і фурмана зрабіць здымным. Захацелася зрабіць і кампазіцыі па матывах карцін Левітана "Асілкі" і "Віцязь на раздарожжы". Са школы ўлюбёны ў Лермантава, асабліва яго паэму "Мцыры". Стварыў кампазіцыю "Бой з барсам". Калі ў гэтым годзе прыйшлі дзетсадаўцы на экскурсію, колькі ж у іх было радасці і жадання сфатаграфавацца каля герояў казак. Нават хлапчукі фатаграфаваліся ў карэце замест Папялушкі. Вынік – мы, дарослыя, можам і павінны ствараць станоўчыя эмоцыі дзецям, тым самым фарміраваць з іх асоб з актыўнай жыццёвай пазіцыяй на аснове лепшых хрысціянскіх маральных прынцыпаў.

Зараз пачаў работу над кампазіцыяй па басні Крылова "Воўк і журавель", таму што Брэнд Мёршчыны "Журавіны і жураўлі".

Паважаныя дзядулі і бабулі! Давайце агульнымі намаганнямі створым для нашых маленькіх унукаў і ўнучак свет казак, свет станоўчых эмоцый.

# Псіхіятр: Шквал інфармацыі пра канец свету садзейнічае павышэнню трывожнасці ў грамадстве

Шквал інфармацыі пра канец свету садзейнічае павышэнню трывожнасці ў грамадстве, заявіў галоўны нарколаг Міністэрства аховы здароўя Беларусі псіхіятр Сяргей Осіпчык на прэс-канферэнцыі ў Мінску 21 снежня. Паводле яго слоў, колькасць пацыентаў у РНПЦ псіхічнага здароўя апошнім часам не павялічылася і цяжка дакладна сказаць, што «інфармацыя пра канец свету стала прычынай пачатку ці абвастрэння псіхічнага захворвання».

Згодна са старажытным календаром майя, 21 снежня 2012 года скончыцца гэтак званы цыкл доўгага ліку Эры Пятага Сонца, які пачаўся ў жніўні 3114 года да н.э. На гэтай жа даце заканчваецца і сам індзейскі каляндар, што песімісты расцэньваюць як прадвесце канца свету. Аптымісты ж упэўнены, што гэтая дата азначае толькі пачатак новай эры, а не канец свету.

Осіпчык адзначыў, што ёсць людзі, якія трактуюць такую інфармацыю як нешта, што сапраўды адносіцца да іх жыцця. І калі СМІ забяспечваюць паток паведамленняў на зададзеную тэму, «хтосьці прыходзіць да таго, што сапраўды заўтра нас чакае канец свету». Псіхіятр адзначыў, што СМІ неабходна ўлічваць, што ёсць людзі, якія ўспрымаюць інфармацыю больш востра, чым іншыя, і ідэнтыфікуюць сябе з тымі ці іншымі сітуацыямі.

Спецыяліст падкрэсліў, што і 10 і 15 тысяч гадоў таму псіхадынаміка чалавека была такой, як сёння, і гэта азначае, што мы мала чым адрозніваемся ад сваіх продкаў па хуткасці, узроўні і сіле рэагавання. Від чалавека разумнага не мяняецца, але мяняюцца ўмовы жыцця, сказаў Осіпчык. Высокая інфармацыйная насычанасць і хуткі тэмп жыцця, у асаблівасці ў мегаполісах, ствараюць умовы, пры якіх чалавек не паспявае прапрацоўваць змены ў навакольным асяроддзі. Ва ўмовах вялікага горада зніжаецца ўзровень камунікацый, што прыводзіць да высокага ўзроўню ўнутранага напружання і з'яўлення трывожнасці.

***Алена Спасюк, БелаПАН.***



Марыя Баравік,
г.п. Падсвілле.

# Людны час у нашым мястэчку

## Дзе большае згуртаванне

Пасля наведвання рынку бывае – дома разгледзіш купленае і не абрадуешся. Ёсць жа там жанчына, якая заўсёды падкладзе у мяшэчак гнілое. Я ўжо ў яе не купляю. Мне кажуць: «Адразу – у выканкам! І патрабуй санстанцыю.». А па мне - лепш галоднай, чым абіваць парогі. Толькі напісаць хочацца.

Аднойчы летам наклалі ў кайстру жоўтых парэзаных агуркоў, гнілаватых. А на вітрыне былі адборныя. Дома я ўсё гэта разгледзела. Ды базар раз'ехаўся. Пазней той цёткі-прадаўшчыцы не бачыла. Не ўмею капацца ў тавары. Не псую настрой прадаўцам. Ім таксама сёння нялёгка. З вітрыны, праўда, не кожны дае. Болын адтуль, што за спіной. І гэтая абслуга ідзе канвеерам. Людзей не хочацца раздражняць, затрымліваць. Але цяпер чэргі — у рыбным аддзеле, ля аўталаўкі з хлебам і батонамі і (праз чацвер) за яйкамі. Прываблівае пастаўская аўталаўка.

Вельмі працягла любуецца пакупнік на мясныя вырабы. Па кусочку купляе. Болын за ўсё, мусіць, трывожна, неспакойна прадаўцам пладовага, ягаднага тавару, які яшчэ жывы, але хворы.

## Чароўная гронка

Недзе ўжо ў сярэдзіне кастрычніка, у нейкі базарны чацвер, наважылася была купіць кілаграм вінаграду. І як звычайна, на ражку (насупраць ДК), дзе збіраецца актыўная чарга, дзе і гаспадары прылаўка шустрыя ў працы і стараюцца трымаць вітрыну і ветлівасць, я кідаю позірк на памідоры ці перац. Памідоры просіць падабраць мая суседка Ганна Рыгораўна, якой 88 гадоў. Яна без зубоў і хоча мяккіх ягад. Цяпер жа якія памідоры? Пярэсценькія, чырвона-шэра-чорныя., драўляныя. І я тлумачу Рыгораўне, што і як.

Я спачуваю прадаўцам падобнай прадукцыі. Няўстойлівы тавар. А прадаць трэба. Інакш – убыткі. І пакупніку крыўдна, што за свой грош гнілое купляе.

Але мне захацелася зялёнага вінаграду. Прыгледзелася – не надта перабраны. Імпэт на адзін кілаграм сціх. Ну, хоць гроначку! Хацела ўжо выцягнуць прыгледжаную. А тут аж бровы падскочылі – гаспадар прылаўка шпокнуў такую выразна спрытную гронку наверх. Амаль гэтак жа імпэтна мая рука ўзняла гэтую чараўніцу. Аднак гаспадарова рука маланкава выхапіла яе - адабрала і кінула ў чорны вінаград, які ў скрыначцы збоку.

– Яна тут ляжала!!! І не перабірайце! Бярыце восьтак! — Паказаў жменяй, як трэба браць. Прама зверху запускаць пальцы, як шчупальцы механічнай рукі ў латарэйным цацачным «акварыуме», у магазіне «Руно», — аднаразава запусціў - і ўзнімай!

Мусіць, не адзін пакупнік памацаў ягады, — думаю і кажу ўслых

– Зразумела, у вас ужо нервовая рэакцыя на ўсё гэта.

— Гэта ў вас нервы! – рэзка кінуў мне прадавец.

Зашылася ўсмешка і пытанне: чаму зялёную гронку вінаграду ён кінуў у чорны вінаград? А куды ж было пакласці яе? Не пад прылавак жа, назад, адкуль яна ўспырхнула наверх на вінаградную скрыначку. Яе прызначэнне, мусіць, рэкламаваць. А я? Ледзь не пазбавіла чалавека яго рэкламнай гронкі. Не буду крыўдзіцца! Але так карціць зірнуць, ці ляжыць яна на чорным вінаградзе.

Праз нейкую гадзінку я прагульваюся міма, і мая зіркатасць заўважае між людзьмі... О, гронкачаўніца! Можа, не адну скрынку яна ўпрыгожвала. О каштоўная! Прама, як ружа! Тырчыць ужо ў куточку, але той жа самай скрыначкі чорнага вінаграду. Ніякавата ёй сёння перабірацца ў зялёны вінаград пасля такога пяшчотнага дыялогу з хітравокім і жвавым гаспадаром прылаўка.

# Людзі побач

## Тынкоўшчыца

Таню, часам, па вечарах сустракаю з прыгожым рудзенькім сабачкам, якога прагульвае, трымаючы на павадку.

А пераступіўшы парог у ейную кватэру, незнарок выпусціла ката, які сачкануў на волю, толькі яго і бачыла. У Тацяны два каты.

Любіць жывёл, значыць добры чалавек. А тут нехта мне кажа: «Ты вось хочаш падрамантаваць сваю сцяну? Шукаеш жменьку раствору? Дык, мабыць, у Тані Дулуб знойдзеш?».

Я згадваю, што сапраўды яна ладзіць, часам, нейкую тынкоўку людзям. Выручае. Але зусім не даходзіць запрашаць яе да сябе. Сама збіраюся мазаць. А вось чым?

Іду да Тані. Яна - з другога канца нашага дома.

– Раствору няма, — кажа. Думае і прапаноўвае пачакаць да нейкай ейнай тынкоўкі. Тут да мяне даходзіць, што яна зробіць лепш за мяне. Бо ўмее. А я ні разу не тынкавала.

– Давайце, гэтыя швы пад маімі вокнамі замажце вы, — кажу з надзеяй, — і яна згаджаецца. Я ўспомніла, што ў мяне, паэткі, журналісткі, ёсць два кілаграмы гэтага тынкавальнага парашку.

Тацяна па-майстэрску, акуратна і хутка заляпіла дзьмушнік у маёй кватэры.

– Глядзіце, – кажа, — зацягнула павалокай шкло вакна, бо адразу пацяплела». Я захапляльна прамовіла: «Вы ж у ДК, у культуры працавалі. І, бач, як добра вы тынкуеце!

– Ды я не культработнік. Я – будаўнік! Гэта так, лёсава, у культуры.

– Во як! А я і не ведала. І апошнім разам, калі вы ў ЖКХ працавалі, была ўпэўнена, што гэтая тынкоўка справа лёсавая, менавіта, сёння. Каб недзе працаваць. Добрая прафесія. Запатрабавальная.

Таня ашчаслівіла мяне надзеяй, што дождж не праб'ецца ў кватэру.

## Паша

Так яго завуць знаёмыя. Пару месяцаў у маёй кватэры (у прыхожай) не гарэла лямпачка. У санпакойчыку (ванным) – некалькі гадоў. Карыстаюся перасоўнай лямпай. Як бы так і трэба.

У жыллёвую кантору звяртацца – вельмі валакітная дзея. Афармляецца справа праз раённую ЖКГ. І калі збудзецца мара, ніхто не скажа канкрэтна. Я набралася рашучасці - пачала шукаць электрыкаў. Паслухаўшы добрыя парады, звярнулася з просьбай да рэкамендаваных наладчыкаў. Пытаюся ў аднаго, той паказвае на другога. Другі на трэцяга, на ЖКГ... Так перабрала пяць «народных» электрыкаў. Адзін з іх на працы, другі – пенсіянер і збіраецца свінню рэзаць. Відаць па адлюстраванні на тварах – ляунюецца.

І вось я бядую перад сваячніцай Людмілай, што мне рабіць? Ёсць у мяне свяцло духоўнае, няма электрычнага. Смяемся, не плачам. І Людміла тэлефануе таму, хто даў ёй святло.

– Паша зробіць,– адказвае жонка – Людміла Вікенцьеўна, – у нядзелю...

Яна і пазваніла ў вызначаны час. Настаўніца разумее, што значыць сядзець без святла, хай сабе і каля дзвярэй...

І праз колькі хвілін Павел Шантар – у мяне на лесвіцы, на пятым паверсе. Аддыхаўшыся і ўжо ў гатоўнасці прыступіць да справы, пытаецца: «Ну, што тут?...

Я паказваю на выключальнік, сцвярджаю, што гэта ён канчаткова віноўнік. Паша, зірнуўшы ўверх на лямпачку, ківае на яе: «Можа там?...»

– Не,– кажу. - Уключальнік! Ён гуляў увесь час.

Павел раскручвае, правярае і мацае провад над лямпачкай...

--Дык жа зломаны провад, – паказвае і смяецца. Ну, канечне, з мяне.

І што тут адкажаш? Гэта ж не вершы пісаць.

За дзве-тры хвіліны справа наладжана. І Павел бярэцца за другі ўключальнік. Але тэты нягоднік забірае гадзіну часу і не паддаецца рамонту. Патрабуе замены.

Адчуваю, што настраёва я і сама, як той агеньчык у лямпачцы ад радасці, што ёсць святло. А яшчэ болып ад добразычлівасці майстра-чалавека, які не паскупіўся на свой асабісты час адпачынку ў нядзелю.

## Восень і мы

Сёння ўжо пятага лістапада – старая восень. І зноў як у мяху. Вада ад неба да долу. І на зямлі. У пешахода размакаюць чаравікі ад хадзьбы па лужынах, зямляной кашцы.

Дом наш доўгі – 6 пад'ездаў. Удоль яго дваравой сцяны, на пешаходный і праезджай дарожцы густа выбоін. Асфальт не рамантаваўся ад пачатку засялення ў 1981 годзе.

Восень прывяла цемнату. З 17-ці гадзін ужо густы змрок і чарната. Гэта найцяжэйшы перыяд з нейкім узмоцненым ціскам на душу, думку. І такім чынам уздзеяннем на здароўе. Нават і не на ўражлівага. Чалавек жа - частка прыроды.

У двары няўтульна. Мокра і цёмна. Той хакейны пляц разгароджаны. Як бы папольшае дваравое месца. Але яшчэ не прыбраны, не падмецены, ён так і застаецца на зіму. Два ліхтары, якія асвятлялі пляц, стаяць. Часам міргаюць. А то і выключаюцца. У пад'ездзе няма лямпачкі.

У такіх абставінах, створаных і восенню, і намі, людзьмі, збіраемся цярпець да вясны, якая прывядзе святло з неба. Іншага святла як бы і не чакаецца. Згадаліся словы начальніка нашага ўчастка жыллёвай гаспадаркі – Анатоля Уладзіміравіча, які ўвесь час паўтарае кліентам: «У парламенце новыя законы распрацуюць... Усе свае дамавыя пытанні будзеце самі вырашаць...». Так ён разганяе нам дзённае беспрасвецце.

## Ці толькі лямпачка?

Я разумею, што чалавек не павінен здавацца ціску, а дзейнічаць у любых умовах. Думкай, словам, адпаведнымі паводзінамі. Вось, напрыклад, рух пенсіянеркі Ніны Уладзіміраўны У. Згодна поглядаў, меркаваннеў яна ўся – у бытавых гаспадарчых справах. І нават грамадскіх. Бо пытанне газавага забеспячэння дома № 59 «Б» узняла і панесла яна. Прыродны газ у некалькіх метрах ад дома - і не ўявілі, бо чамусьці не быў пазначаны ў плане забеспячэння.

Як так здарылася, вызнавала Уладзіміраўна. Але адбылася вясёлая гісторыя ейных упартых дзеянняў: паездак па інстанцыях, тлумачэнняў, выбіванняў. І толькі, напэўна, пры новых кіраўніках раённага і абласнога выканкамаў яна дабілася, што газ будзе праведзены. Спадар Алег Морхат заехаў у Падсвілле за ёй, завёз у Віцебск і назад прывёз. Была кіраўнічая камісія ў двары.

І вось цяпер яе непакояць новыя металічныя дзверы, якія адразу, як толькі паставілі, дыфектавалі ў сваёй функцыі. Яна ўжо павывучала і ўведала прыкладны час з'яўлення начальніка ЖКГ на працу.

– Пайшлі, – кажа, – яшчэ ж не прынялі мераў па тваім звароце.

Але апошні мой зварот які? Усяго толькі электрычную праводку ў падвале «памацаць» і цокаль на лесвічнай пляцоўцы 5-га паверха замяніць? Што гэта за зварот! Яны ж самі, напэўна, ведаюць свае абавязкі. Проста ў іх якая база? Ні цвіка, ні малатка, ні завесы, ні ручкі, напрыклад, да ваконнай рамы. Ну, пэўна, і лямпачкі няма. Ёсць толькі той, хто ўсё зробленае ў раённай майстэрні, псуе, як тую маю ваконную раму... Але пра Гэта каму гаварыць? Можа б і быў майстар, каб была зарплата.

Ніна Уладзіміраўна ўсё роўна напірае: «Павінны рабіць!». І тут на апошнім «прыёме» яна паведамляе начальніку, што на сметніку не гарыць лямпачка, што шкодна, прыкра міргае. Не вядома, як ступіць, каб нага не трапіла ў калдобіну.

– Па начах пенсіянеры павінны сядзець дома. Смецце выносіць днём! – адрэзаў начальнік, забыўшыся, што цяпер пасля шаснаццаці гадзін цёмна.»

– І вы ж – пенсіянер, навошта тут працуеце? – маланкава падсекла Уладзіміраўна, ведаючы ранейшую міліцэйскую пасаду Уладзіміравіча.

– Я падрабатываю!», нечакаючы такога выпаду актыўнай грамадзянкі, цішэй кажа начальнік, замест таго, каб сказаць, што ён з'яўляецца сюды днём і на машыне.

– І я ж бы падработала,– паведамляе Ніна,– дык дзе?

Сапраўды, яна вядзе бясплатна свой дваравы рэй.

Прысутныя ўсміхаюцца такому павароту спрэчкавага дыялогу. І я ўжо разумею, што трэба пакідаць канторку - напал абставін сапсуе апетыт. А тут жа – перадабеднік.



**Самы лепшы спосаб прадугледзець, што будзе, – успомніць, што было.**

*Маркіз Галіфакс.*

# Хай будзе святло!

■ Фадзей Шымуковіч

За свае няпоўныя 77 пражытыя гады я прайшоў шлях ад пячорнага чалавека да сучаснага цывілізаванага, з пункту гледжання, якімі крыніцамі святла давялося карыстацца. З 1941 года, калі наша мясцовасць была акупіравана немцамі і не было дзе купіць керасіну, асвятляліся лучынай. Бацька прывозіў з лесу сасновыя чурбакі даўжынёй 80см (аршынавыя), рассякаў іх на брусы. Потым вялікім спецыяльным нажом шчапаў іх на лучыну, сушыў яе на печы, каб яна ярка гарэла і давала больш светлавой энергіі. Для гэтага выкарыстоўвалася спецыяльнае прыстасаванне – светач. У шырокую калодку-аснову заганяўся мятровы стрыжань, на які ў верхняй частцы замацоўваўся зажым-трымальнік лучыны. Пад гарачай лучынай размяшчаўся таз з вадой для гашэння вугалёў, якія атрымоўваліся пры гарэнні. Рамантычна! Праўда? Толькі пакой паступова напаўняўся дымам, і праз некаторы час пачынала балець галава ад чаду. Гэтым цуда-асвятляльным прыборам мы карысталіся да лета 1944 года. Маці і бабуля пралі ніткі для саматканага палатна, бацька віў вяроўкі, плёў лапці, мы гулялі. Вось такая ідылія.

Вясной 1944 года, калі немцы ўстроілі блакаду на партызан, у нашым доме кватаравала аддзяленне літоўскіх і латышскіх ваяк. Камандзір аддзялення ў в. Фядосава знайшоў свайго сваяка Стэфановіча, і калі яны з'язджалі, ён нам у знак павагі пакінуў некалькі дзясяткаў асвятляльных плашак – гэта кардонныя ёмістасці, падобныя на кансервы, запоўненыя нейкім рэчывам, у якое ўстроены фітыль. Гэта куды лепш, чым лучына. І святла больш, і ядавітага дыму менш. У верасні 1944 года бацьку забралі ў Іркуцкую вобласць на Чарамхоўскія каменнавугальныя шахты. Я пайшоў у першы клас і вучыў урокі паперамена, то пры святле плашак, то пры лучыне. Аднойчы заснуў над сшыткам, гарачы вугаль зваліўся на сшытак і ён згарэў. Колькі было плачу, таму што сшыткаў тады не было, іх нам за грошы выдавалі ў школе ў пэўнай колькасці.

Чалавек здольны на выдумкі, асабліва ў трагічныя моманты. Мама прыдумала керасінавую курадымку. У нізкую шырокую бутэлечку наліваўся керасін, апускала туды кнот, а замест корка спецыяльнае прыстасаванне з бляхі, з якой тырчаў кончык кнота і гарэў. Але керасіну не было ў дастатковай колькасці, выдавалі пад норму. Мама брала яйкі, пусты посуд і ішла да дарогі за 7 кіламетраў Дзісна-Германавічы і ў праезджых ваенных шафёраў мяняла яйкі на бензін. А каб бензін у курадымцы не ўспыхнуў і не быў пажар, умудрыўся ў яго сыпаць соль. Хоць соль таксама была дэфіцытам. У такіх умовах вучыўся ў 2-м і 3-м класах.

У пачатку красавіка 1947 года вярнуўся бацька. Купілі стандартную 7-мі лінейную керасінавую лямпу са шклом і зажылі як белыя людзі. Колькі было радасці! Праз пару год дазволілі сабе такую раскошу, як набыць 10-і лінейную вісячую лямпу. Цяпер яна вісела над сталом і раўнамерна размяркоўвала святло па ўсёй кватэры. Пры гэтым цуда-свеце ў 1955 годзе закончыў 10 класаў Акунёўскай СШ. Адслужыў у арміі, год адпрацаваў брыгадзірам, год адпрацаваў старшынёй сельсавета, два гады ў калгасе парторгам і нампрэдам.

Павінен адзначыць, што калі ў 1949 годзе пайшоў у пяты клас Акунёўскай сямігадовай школы, за недастатковасцю класных пакояў вучыліся ў дзве змены. Натуральна, што першая змена, першыя ўрокі, а другая змена, апошнія ўрокі праводзіліся пры святле керасінавых лямпаў, якія па перыметры развешваліся на сценах па 5-6 штук, у залежнасці ад памеру класа. Ніхто ніколі і нікога не штрафаваў за нізкія нормы асвятлення, якое псавала здароўе дзяцей. Пацярпеў і я. Пасля заканчэння школы не прайшоў медкамісію па зроку для паступлення ў ваеннае вучылішча.

У 1962 годзе пачалася электрыфікацыя. Якое гэта было шчасце! У школы, клубы, жылыя дамы прыйшло не толькі святло, але і іншыя выгоды: пральныя машыны, халадзільнікі, радыёпрыёмнікі, радыёлы, тэлевізары. Народныя ўмельцы прыстасаваліся піліць дровы, чысціць дошкі. Ды ці мала чаго іншага.

**Керасінавую лямпу са шклом я захоўваю на ўсякі выпадак. Але дзе купіць керасін?**

А сёння нам здаецца, што электрасвятло было вечна. Як гэта можна было без яго жыць!? Жылі, бо яго не мелі. Прыемна, што і нашы беларусы імкнуцца не адставаць ад цывілізаванага Захаду. Колькі набываюць бытавых прыбораў, якія аблягчаюць цяжкую фізічную працу, асабліва гаспадынь дома. Думаю, няма неабходнасці пералічваць гэтыя выгоды, без якіх цывілізаваны чалавек не ўяўляе жыцця.

А тут як гром з яснага неба. А ну яго, гэтага нахабнага транжыру электраэнергіі. Абмежаваць яго, сукінага сына! Сапраўды, эканомія - справа добрая. Транжырым мы свае Багацці. Але ж патрэбна разабрацца, хто, дзе і чаму.

Мая сям'я складаецца з 2-х чалавек. Карыстальнікаў электраэнергіі ў мяне - на пальцах можна пералічыць: халадзільнік, маразільнік, тэлевізар, электралямпачкі і летам, часам, электралобзік. Мы вельмі патрабавальна, асабліва жонка, глядзім, каб без неабходнасці нічога не ўключалася. А вынік: студзень – 100, люты – 350, сакавік – 90, красавік – 90, май – 90, чэрвень – 100, ліпень – 110, жнівень – 100, верасень – 90, кастрычнік – 100. І ў наступныя месяцы менш, чым на 100 кВт\гадзін, не ўкладуся. Нягледзячы на пастарэлы ўзрост, без работы не магу. А ўжо ўручную піліць, габляваць - няма той ранейшай сілы. Марыў штосьці купіць наконт электрагабэлька, электрапілы ручной, але гэта так і застанецца ў марах. Хоць і мільённая пенсія, але не пацягну такой аплаты. А што рабіць тым, у каго мікрахвалевая печ, складаная пральная машына і цэлы пералік чаго іншага. У якіх месячны расход электраэнергіі 350-600 кВт\гадзін?

Хацелася б запытацца ў аўтара гэтага "разумнейшага" мерапрыемства, нам што, зноў вяртацца, калі ўжо не ў пячорны перыяд, то год на 100 назад? Керасінавую лямпу са шклом я захоўваю на ўсякі выпадак. Але дзе купіць керасін? І як гэта мерапрыемства адаб'ецца на тых грамадзянах, у якіх скаціна на панадворку?

# БЧ уводзіць дадатковы цягнік зносінамі Мінск - Вільнюс

**Беларуская чыгунка ўводзіць дадатковы цягнік № 201/202 зносінамі Мінск — Вільнюс — Мінск «у сувязі з ростам пасажырапатоку і папулярнасцю гэтага напрамку». Пра гэта паведамілі БелаПАН у прэс-службе БЧ.**

Новы цягнік будзе курсіраваць па суботах і нядзелях з 22 снежня.

Цягнік будзе адпраўляцца са станцыі Мінск-Пасажырскі ў 8.17, а прыбываць у Вільнюс у 10.45. Час адпраўлення зваротнага цягніка № 202 з Вільнюса — 18.55, прыбыццё ў Мінск — 23.33.

Цяпер па беларускай магістралі зносінамі Мінск — Вільнюс курсіруюць дзве пары цягнікоў: № 15/16 і № 37/38.

Акрамя гэтага, БЧ працягвае прызначаць дадатковыя цягнікі на час калядных і навагодніх свят.

Таксама прызначаныя дадатковыя цягнікі ў Расію на 6, 7 і 8 студзеня. Дадатковы цягнік № 210 Мінск — Масква будзе адпраўляцца з Мінска 6 і 7 студзеня ў 19.54, прыбываць у Маскву — 7 і 8 студзеня адпаведна ў 8.00.

Цягнік № 410 Мінск — Масква прызначаны на 8 студзеня. Са сталіцы Беларусі ён выйдзе ў 23.37 і прыбудзе ў сталіцу Расіі 9 студзеня ў 9.37. Таксама прызначаны дадатковы цягнік № 209 адпраўленнем з Масквы 9 студзеня ў 16.50.

«Беларуская чыгунка прадоўжыць працу па забеспячэнні перавозак пасажыраў у перыяд калядных і навагодніх свят. Плануецца прызначэнне новых дадатковых цягнікоў», — адзначылі ў прэс-службе.

*М. Носава, БелаПАН.*

# Зацверджана дзяржпраграма развіцця інфармацыйнай інфраструктуры падатковых органаў

**Дзяржаўная праграма развіцця інфармацыйнай інфраструктуры падатковых органаў на 2013-2015 гады зацверджана ў Беларусі. Адпаведная пастанова прынята Саветам міністраў 13 снежня.**

Як паведамляе прэс-служба ўрада, асноўнай мэтай праграмы з'яўляецца ўдасканаленне падатковага адміністравання. Для яе дасягнення неабходна рэалізаваць шэраг мерапрыемстваў, у тым ліку правесці мадэрнізацыю тэхнічных сродкаў і ўдасканаліць інфармацыйныя сістэмы, што выкарыстоўваюцца ў працы падатковых органаў.

Рэалізацыя праграмы дазволіць скараціць час, які затрачваецца плацельшчыкамі на разлік і выплату падаткаў, у 2015 годзе да 250 гадзін, адзначае прэс-служба. Цяпер гэты паказчык у Беларусі складае 338 гадзін, летась ён дасягаў 654 гадзін. Для параўнання, расійскі плацельшчык затрачвае 177 гадзін, казахскі — 188, грузінскі — 280, азербайджанскі — 214.

Будзе створана магчымасць падавання ў падатковыя органы ўсіх форм дакументаў у электронным выглядзе, што дазволіць павялічыць да 100% электронны дакументаабарот з плацельшчыкамі і дасягнуць узроўню перадавых дзяржаў у частцы электроннага ўзаемадзеяння падатковых органаў з плацельшчыкамі.

Унутраны папяровы дакументаабарот падатковых органаў плануецца знізіць не менш як на 50%, тым самым скарацўшы затраты на захоўванне архіваў. Будзе забяспечана стварэнне аднаго з кампанентаў «Электроннага ўрада» па аказанні дзяржаўных электронных паслуг у сферы падаткаабкладання.

Чакаецца павышэнне выніковасці падатковага кантролю і ўзроўню планавання падатковых праверак, заклікане забяспечыць скарачэнне колькасці праверак, узмацненне падатковага кантролю ў дачыненні да плацельшчыкаў, верагоднасць падатковых утойванняў у якіх найболей высокая. Дзяржпраграма таксама заклікана павысіць узровень выканальніцкай дысцыпліны і празрыстасці дзейнасці падраздзяленняў падатковых органаў, будзе ўдасканалена сістэма інфармацыйнай бяспекі падатковых органаў.

Плануецца, што рэалізацыя праграмы дазволіць павысіць эфектыўнасць працы падатковых органаў і якасць падатковага адміністравання, узмацніць у сферы дзейнасці падатковых органаў кірункаў аналізу, аўдыту і прагназавання падатковых паступленняў, стымуляваць развіццё прадпрымальніцтва.

На рэалізацыю дзяржаўнай праграмы з рэспубліканскага бюджэту прадугледжваецца затрацiць 140,4 млрд. рублёў, у тым ліку ў 2013 годзе — 52,4 млрд., у 2014 годзе — 48,3 млрд., у 2015 годзе — 39,6 млрд.

*Андрэй Серада, БелаПАН.*

# Павышаць узрост выхаду на пенсію ў Беларусі ў бліжэйшай перспектыве не плануюць, паведаміў Тозік

**Павышаць узрост выхаду на пенсію ў Беларусі ў бліжэйшай перспектыве не будуць, паведаміў намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік, выступаючы 20 снежня на сумесным пасяджэнні палат Нацыянальнага сходу.**

Паводле яго слоў, у 2012 годзе ў краіне забяспечваўся паэтапны рост пенсій. Апрача таго, новаўвядзеннем стала выплата павышаных памераў «пенсійных бонусаў» за добраахвотную адтэрміноўку звароту па пенсію. «Калі чалавек дасягае пенсійнага ўзросту і хоча яшчэ адзін год папрацаваць, не атрымліваючы пенсію, то яго разліковая пенсія павялічваецца на 6%, за другі год — плюс 8%, за трэці — плюс 10%, за чацвёрты — 12%, за пяты і наступныя гады адтэрміноўкі — плюс 14%», — зазначыў Тозік.

Віцэ-прэм'ер таксама паведаміў, што з 1 студзеня 2012 года ўстаноўлена штомесячная мэтавая даплата да пенсій пажылых грамадзян, якія дасягнулі 75 і 80 гадоў. «Па ацэнцы ў студзені - снежні 2012 года ў параўнанні з адпаведным перыядам 2011 года сярэдні памер пенсій па ўзросце павялічыцца на 24,2% і складзе 1 млн. 964 тыс. рублёў. Урад і ў далейшым будзе накіроўваць свае намаганні на павышэнне эфектыўнасці дзяржаўных пенсійных расходаў, недапушчэнне росту пенсійнай нагрузкі на эканоміку, адаптацыю пенсійнай сістэмы да сацыяльна-эканамічных і дэмаграфічных умоў, якія змяняюцца», — сказаў Тозік.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*

## Здыму:

Здыму жыллё.
Т.:564-47-87*

Два хлопцы здымуць пакой ці 1-пакаёвую кватэру з выгодамі.
Тэл. 8-02154-4-23-00, 8-029-898-33-39

Хлопец здыме кватэру альбо пакой.
Т.: (029) 545-33-31

## Здам:

Здам невялікую гандлёвую плошчу, м-н «Бегемот» на 2-м паверсе.
Т.: 8-029-757-37-70, 8-029-712-93-34(мтс), або звяртацца ў м-н «Бегемот», г. Глыбокае, вул. Леніна, 87 з 9.00 да 18.00***

Здам у арэнду гараж з ямай і ацяпленнем для рамонту л\а і мікрааўтобусаў
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)***

Здам у арэнду 1-пакаёвую кватэру без выгод у Глыбокім, пакой 17$м^2$, кухня 6$м^2$. Магчыма з наступным продажам.
Т.: 8-029-715-43-98(мтс), 8-0214-32-28-56+1

У гандлёвым цэнтры «Для Вас» здаюцца памяшканні ў арэнду, 14$м^2$ і 30$м^2$. А таксама асобна стаячы павільён 16$м^2$. Т.: 2-31-29 (з9.00 да 17.00)+4

Здам 2-пакаёвую кватэру з частковымі выгодамі: вада, тэлефон.
Т.: 591-82-69

Здам 1-пакаёвую кватэру без выгод.
Т.: (033) 306-26-87

Здам у арэнду памяшканне ў цэнтры Глыбокага па вул. Чырвонаармейскай, 39, плошчай 100$м^2$.
Т.:+37529-755-42-91

Здам у арэнду гандлёвую плошчу 25$м^2$.
Т.: 8-029-184-36-46**

Здам гараж па вул. Чапаева. Т.: 2-83-21, 292-30-94(мтс)

Здам гараж у р-не камбікормавага з-да.
Т.: 8-029-249-11-47(мтс), 2-47-34

## Мэбля на продаж:

Кухні новыя, вуглавыя, даўжыня 3,5м, выбар варыянтаў і колеру, элітныя, усё ў наяўнасці, 5млн. 800 тыс руб. УНН391054834 выд. Глыбоцкім РВК 22.03.2010г.
Т.: 8-029-714-00-74(мтс)***

Канапу-ложак.
Т.: 513-12-96(мтс)

Ложак 2-ярусны. Стол пісьмовы б\у.
Т.: 514-36-82(мтс)

Столік журнальны 3-ярусны, б\у.
Т.: 8-029-519-20-00

Стол камп'ютарны новы, вуглавы, колер - бук.
Т.: 8-029-510-95-94

Шафу-купэ 3-дзвёрную, 1 млн.руб.
Т.: 8-033-645-16-27

Канапу.
Тэл. 8-029-213-84-25

## Куплю аўдыё- відэа, музычныя інструменты:

Балалайку.
Т.: 517-46-14+

## Прадам камп'ютары:

Прынтар «Epson TX 117», 3 у 1, 2 мес. б\у, 130у.а.
Т.: 8-029-716-67-91

Новы планшэт GOCLEVER TAB T76-GPS-відэарэгістратар 1GHz Android 4.0.3, RAM 512 MB (DDR3). Унутраная памяць 8 Гб, WI-FI, 2 камеры. Дысплей 7" LCD TFT Multi Touch; ФМ-мадулятар, GPS-навігацыя па РБ, падрабязныя карты.
Т.: 8-029-711-61-04*

Камп'ютар б\у добры стан, 1,5млн. руб.
Т.: 716-28-26(мтс)**

Манітор «ViewSonic VA 1938-LED», 980 тыс. руб.
Т.: 594-30-22*

Камп'ютар стацыянарны «Самсунг».
Тэл. 8-02157-2-23-75, 8-044-797-48-57

## Катлы. Сантэхабсталяванне:

Кацёл для лазні (бані) высокапрадукцыйны, жаростойкая сталь, 310у.а.
Т.8029-286-65-32(мтс)***

Катлы «Камфорт» і іншыя, нядорага.Магчыма растэрміноўка. Мадэлі таксама розныя: на дровах, вугалю, брыкеце з магчымасцю падключэння прыроднага газу. Нядорага. Душавыя кабіны,боксы. Распродаж. Труба вадаправодная, паліэтыленавая, 25-ка, 8700 руб\метр. Розная бытавая тэхніка: халадзільнікі, газавыя пліты, эл\інструмент, посуд, карнізы, шпалеры, будаўнічыя матэрыялы і гаспадарчыя тавары. М-н «Бегемот»,вул.Леніна,87.
Т.:2-41-01(з9.00да18.00)***

Катлы новыя, вялікі выбар, са склада прама па цэнах завода вытворцы + дастаўка,КС-ТГВО-25= 6550000 руб,КС-ТГВД-20=7580000 руб, КС-Т-25У (Камфорт)=-8350000руб, эксплуатуюцца на дровах, брыкеце і вугалю, сартыфікаваныя, з завадской гарантыяй, выт. РБ., з магчымасцю падключэння прыроднага газу. Высокапрадукцыйныя, эканамічныя, з убудаваным асобным бойлерам для гарачай вады для кухні, ванны, газагарэлачныя прыстасаванні для эксплуатацыі дадзеных катлоў на прыродным газе (дадаткова 890000руб).УНН 391054834 выд.22.03.2010г Глыбоцкім РВК.
Т.: 8-029-714-00-74***

## Прадам будматэрыялы:

Бетонамяшалку.
Т.: 249-41-04+

Уцяпляльнік «ROCKWOOL» павышанай шчыльнасці, для падлогі, сцен, дахавых перакрыццяў, фасадаў будынкаў, можна выкарыстоўваць пад штукатурку або сцяжку. Пластык сценавы, паталочны, сайдзінг. Бляху (жесть) ацынкаваную, дзверы міжпакаёвыя. Распродаж. Нядорага.Магазін «Бегемот», вул.-Леніна,87(з 9.00 да 18.00)
Т.: 2-41-01***

Батарэі чыгунныя б\у.
Т.: 677-53-33(мтс)+2

Жалезную агароджу, 8 пралётаў. Т.: 713-63-11**

Пліты перакрыцця П-абразныя, б\у, 6х1,5м, 7 шт.Т.:8-029-517-09-19 (мтс),8-029-515-21-04(мтс)

Блокі фундаментныя.
Т.: 810-04-70(мтс)

Дзве ванны:адна б\у чыгунная, 1 млн. руб, другая новая, 220у.а. Абедзве ў добрым стане.
Т.: +37529-214-34-55

Плітку абліцовачную 10х15.
Т.: 3-54-69

## Прадам тэлефоны:

Аксэсуары (батарэйкі, карпусы і інш.) ІП Сядова Н.У. УНН 391055205;
Т.: 813-99-99+

Nokia-97 32 Гб, выдатны стан. Т.: 676-66-68(мтс)*

Nokia-8, новы.
Т.: 8-029-716-67-91

Nokia-300, выдатны стан. Нядорага. Т.: 719-47-62

Nokia-800, камера 8 тдз, флэшка 16Гб, GPS навігатар, сэнсарны экран, блютуз, кабель, чахол, новы, на гарантыі, 2,8 млн. руб.Т.: 8-029-812-95-09

Nokia-2310, крыху б\у, чорны, з ліхтарыкам, добры стан, 35у.а. Т.: 8-029-286-65-32(мтс)

Samsung, новы, ва ўпакоўцы, 2 сім-карты, 300 тыс. руб.Т.:8033-342-42-07(мтс)

Samsung- Галаксі і 9220, новы, 2 актыўныя сім-карты, усе функцыі, сэнсарны (Карэя), батарэйка 6800, 155у.а. Т.: +37533-309-54-93

EXPLAY Q231, новы, чахол, навушнікі, каробка, 3 актыўныя сім-карты, вялікая клавіатура, усе функцыі, 115у.а.
Т.: +37529-240-34-88

Андроід-Хуавель У-8230, б/у, выдатны стан., кошт 90 у.а. Т.мтс: 648-41-85; 815-71-34

## Бытавая тэхніка і газавае абсталяване на продаж:

Халадзільнікі «Індэзіт», новыя, высокія, гарантыя, 3570000руб.УНН 391054834 выд. 22.03.2010г.Глыбоцкім РВК.
Т.: 8-029-714-00-74(мтс)***

Бойлеры электрычныя воданагравальныя «Фэролі», энергаэканамічныя, новыя, гарантыя, дастаўка-,1250000руб.УНН 391054834 выд. 22.03.2010г.Глыбоцкім РВК.
Т.: 8-029-714-00-74(мтс)***

Халадзільнікі «Індэзіт», розныя мадэлі, вялікі выбар, нядорага, магчыма растэрміноўка, м-н «Бегемот», 2-і паверх (салон халадзільнікаў). Пліты газавыя«Індэзіт»,«Mastercook», еўрапейскай зборкі, распродаж, 2750000руб., дапамога ў дастаўцы.Сокавыціскалкі «SEVERIN», вытв. Германія,нядорага.Вул.Леніна,87.Т.:2-41-01 (з 9.00 да 18.00)***

Мыючы пыласос.
Т.:813-99-99(мтс)+

Халадзільнік б\у.
Т.: 2-83-43, 811-53-58(мтс)

Кофе-машынку «PUILIPS SAEPO» 14 памолаў, крыху б\у, Чэхія, 1,5л.
Т.: 8-029-718-81-03(мтс)

Халадзільнік 2-камерны.
Т.: 517-46-14+

Халадзільнік «Норд», б\у, нядорага, патрабуецца рамонт. Т.: 695-67-12(мтс)

Пліту газавую бытавую б\у «Гефест».
Т.: 8-029-296-67-22(мтс), 2-43-40*

Тэлевізар «Віцязь», дыяганаль 70см, б\у, 2007г.в., выдатны стан. Т.: 2-94-12

Пліту газавую 4-канфарную 50х60см, б\у 3г., выдатны стан, 100у.а., торг.
Т.: 8-029-814-45-67(мтс), 8-029-212-05-40(мтс), 2-63-31(пасля 18.00)

## Прадам еміну:

Тушу кабана. Т.: 216-62-75

Тушу кабана.
Т.: 216-89-33(мтс)

Тушу кабана. Т.: 3-10-72, 317-35-29(мтс)

Тушу або паўтушы кабана да 100кг, 40 тыс. руб\кг.
Т.: 899-42-18

Тушу кабана. Т.: 3-19-84, 8-029-894-80-33(мтс)

Тушу свінні каля 80 кг, 40.000 рублёў за 1 кг.
Тэл.8-029-595-95-95

Тушу свініны да 100кг. Кошт па дамове.
Т.: (044) 544-60-06

Тушу кабана і парасят.
Тэл. 8-02156-3-58-54, 8-033-3-607-999

Паўтушы свініны, 43.000 за 1 кг. Тэл. 8-02156-3-12-04, 8-033-356-83-99

Паўтушы свінні, парасят в'етнамскай пароды, нядорага.
Тэл. 8-02156-3-35-78, 8-029-597-84-23, 8-033-646-08-56

Яблыкі, 4-5 тыс. руб\кг.
Т.: 299-21-09(мтс), 3-68-62

## Прадам жывёлу, пчол, рыбак:

Парасят в'етнамскіх і тушы в'етнамскіх свіней.
Т.: 3-86-56,306-25-98(мтс)

Парасят в'етнамскіх, узрост 2 мес., нядорага.
Т.: 516-62-69(мтс),2-62-69

Парасят в'етнамскай пароды.
Т.: 8-029-295-15-68(мтс)*

Парасят в'етнамскай пароды, в'етнамскага кабана. Т.: 677-46-15**

Трусоў пародзістых, мяса трусоў. Т.: 768-36-95(мтс)

Авечак. Т.: 8-029-810-92-76

Казу. Т.: 2-43-50; (029) 519-22-98*

Шчанят 2-месячных йоршырскага тэр'ера.
Т.: +37533-676-59-63(мтс)

Карову на выбар.
Т.: 8-029-713-78-43

Кабана 8 мес.
Т.: 297-94-66(мтс)

В'етнамскіх парасят.
Тэл. 8-029-719-77-67

Вв'етнамскіх парасят.
Тэл. 5-04-51 (Глыбокае), 8-033 358-96-93

## Куплю жывёлу:

Дорага быка, карову, цяля, каня, а таксама вымушаны забой.Т.:8029-718-09-21***

Дорага быка, карову, цяля.
Т.: 8-029-899-25-42+15

Дорага быка, карову, цяля, авечак.Т.:8029-716-91-78+15

Буйную рагатую жывёлу: карову, каня, авечак.
Т.: 8-029-719-05-79+1

Карову на мяса. Дорага.
Т.: 241-69-68, 3-16-97*

**Карову, быка, цяля, цялушку, авечак, каня - на мяса. Дорага. Т.: 241-69-68(мтс), 904-66-36(в), 3-16-97***

Каня, быка, карову, цяля.
Т.: 8-029-714-73-11

## Аддам жывёлу:

Аддам кацянят у добрыя рукі, 3 мес., прывучаныя да туалета. У падарунак ашэйнік. Т.: +37529-810-98-89, +37529-511-83-08

Аддам кацянят у добрыя рукі. Т.: 513-13-00*

Аддам шчанят (хлопчыкі), маленькія. Т.: 716-40-29

Аддам прыгожых пухнатых кацянят, прывучаных да латка.Т.: 8-033-378-13-22**

Аддам нямецкую аўчарку (дзяўчынка) ў добрыя рукі.
Т.: 8-033-662-32-46

Дару кацянят, у добрыя рукі. Тэл. 8-033-378-13-22, 8-029-218-02-45

## Прадам кармы:

Камбікорм, нядорага. Магчымая дастаўка.
Т.: 810-94-36 (мтс)*
УНП 390506057

## Прадам тавары для дзяцей:

Каляску Джып 3 у 1. Т.: 8-033-696-39-37

Дзіцячы ложак, 3 рэжымы: вібра, музыка, падсветка. Высоўныя калёсікі, цацкі. Падыходзіць дзеткам да 6 мес. Колер блакітны. У выдатным стане, 850 тыс., торг.
Т.: 8-029-895-07-02(мтс)*

Дзіцячую каляску Джып, поўны камплект.
Т.: 8-029-766-35-72

Дзіцячыя хадункі, ружовыя, музычныя, добры стан, 250 тыс. руб. Т.: 694-90-51(мтс)

## Прадам адзенне,абутак:

Куртку жаночую. Джынсы, 250 тыс. руб., новыя, вытв. Італія.Т.: 8-029-297-97-28**

Дублёнку мужчынскую натуральную, п-р 50.
Т.: 3-54-69

Шапку норкавую, новую.
Тэл. 8-029 89-98-516

Чаравікі мужчынскія зімовыя, новыя, карычневыя, п-р 43-44, 570 тыс. руб.
Т.:8-029-286-65-32(мтс)***

Куртку мужчынскую цёплую, натуральная скура, на сінцепонавай падкладцы, п-р 54-56, крыху б\у, 175у.а.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)

Дублёнку мужчынскую, натуральную, падоўжаная, п-р 54-56,крыху б\у,260у.а.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)

## Прадам паліва:

**Прычэп дроў з дастаўкай.Т.: 514-21-76(мтс)**+25

Дровы з дастаўкай.
Т.: 8-029-891-23-08(мтс)+

Дровы з дастаўкай.
Т. мтс: 316-06-74

Дровы з дастаўкай.
Т.: 216-11-77(мтс)**

Дровы з дастаўкай, 1 млн. руб.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)***

Дровы, 6 кубоў, 1350000руб.
Т.: 8-029-892-87-21(мтс)***

**Дровы з дастаўкай па г. Глыбокае і наваколлі. УНН 390308527
Т.: 894-09-29(мтс)**

Абрэзкі дроў, рэзаныя, з дастаўкай.
Тэл. 8-029-290-49-34

Дровы.
Тэл. 8-033 676-02-92

## Прадам расліны:

Корань лапчаткі белай.
Т.: 894-09-15(мтс), 2-46-74

## Прадам тавары для здароўя:

Бабровая струя, 1 пара-\470тыс. руб, высушаная, здрабнёная. Эфектыўна вылечвае страўнік, падстраўнікавую залозу, атэрасклероз, ціск, ачышчае печань і сасуды ад халестырынавых бляшак,узнаўляе і ўзмацняе патэнцыю, аказвае амалажваючае і агульнаўзмацняючае дзеянне на ўвесь арганізм і многае-многае іншае. З'яўляецца ўнікальным лячэбным прыродным сродкам, які не мае аналагаў.Т.:8029-120-82-52(в)***

Актыватар для вытворчасці «Жывой» і «Мёртвай» вады, 870000руб.«Жывая» і«Мёртвая» вада мае шырокі спектр дзеяння: вылечвае ад лішняй вагі, атлусцення, алкагольнай і табачнай залежнасці, узнаўляе абмен рэчываў, выводзіць шлакі з арганізма, пазбаўляе ад камянёў у нырках і печані,магакратна павялічвае патэнцыю, рассасвае эрозію шыйкі маткі, дапамагае ўзнавіць і палепшыць сон, заспакойвае нервы, амалажвае, узмацняе ўвесь арганізм і імунітэт у цэлым. Унікальны прыбор вытв. РБ. Ліцэнзія-.Афіцыйны сертыфікат МінРБ. НН391054834 выд.22.03.2010г. Глыбоцкім РВК. Тэлефон для кансультацый і набывання: 8-029-120-82-52(в)***

## Спартыўны інвентар прадам:

Канькі, п-р 30, 31.
Т.: 397-90-09(в), 516-49-88(мтс)

## Куплю калекцыі:

Любы дакумент ці рэч, якія маюць гістарычную каштоўнасць:паштоўкі і здымкі з відамі Глыбочыны, кнігі аб Глыбочыне, рукапісы, значкі, статуэткі, дакументы аб узнагародах і інш. Т.:514-29-43(Віктар)+

Старыя манеты, узнагароды і іншае. Т.: 757-37-70+

Старыя манеты, значкі, званочкі, радыёпрыёмнікі, грамафон., бяспечную брытву.Т.: 8-02156-2-94-40, 8029-510-43-80

## Іншае:

Акажу дапамогу ў рэгістрацыі ў Віцебску.Тэл. 53-03-20, 8-033 683-12-40

Патрэбна прапіска ў Віцебскай вобласці.
Тэл. 8-0212 27-43-22, 8-025-999-76-10

## ІМЯНІНЫ

**27 снежня**
**Пр.:** Апалонія, Калініка, Філімона.
**К.:** Максіма, Цэзара, Яна.

**28 снежня**
**Пр.:** Паўла, Аляксандра, Сцяпана, Трыфана.
**К.:** Антона, Эмы, Цэзара.

**29 снежня**
**Пр.:** Аляксандра, Аркадзя, Пятра, Уладзіміра.
**К.:** Давыда,Тамаша.

**30 снежня**
**Пр.:** Аляксандра, Данілы, Івана, Антона, Данілы, Сцяпана.

**К.:** Кацярыны, Яўгена.

**31 снежня**
**Пр.:** Зоі, Міхаіла, Марка, Сімяона.
**К.:** Меланіі, Сільвестра.

**1 студзеня**
**Пр.:** Рыгора, Іллі, Цімафея.
**К.:**Ефрасінні, Марыі, Мечыслава.

**2 студзеня**
**Пр.:** Данілы, Івана, Ігната.
**К.:** Васіля, Рыгора, Макара.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Возглас восхищения | Адресат стихотворения Пушкина | | Борцовский "нокаут" | | Зубная ... | |
| | | | | | | | |
| | Обозначение замедления темпа (муз.) | Пик в Пиренеях | | ... цена | | Курорт в Сочи | |
| | | | | | | | |
| | Русский мореплаватель | | Антилопа | | Летняя сухая и ясная погода | | Низ сосуда |
| Специалист сельского хозяйства | | | | | | | |
| Бумажный ... | | Мелкая синица | | | | Неуловимый ... | |
| | | | | Курорт в Сочи | | | |
| Взятка | | Город в Грузии | | | | | Рыбий ... |
| | | | | Единичный вектор | | | |

**Ответы на сканворд №51**
**По горизонтали:** По горизонтали: Ра. Шифр. Ион. Мороз. Уфа. Твист. Аз. Пикадор. Рио. Улов. Дир. Ом. Осада. Сиу. Роу. Путятин. **По вертикали:** Санки. Дрофа. Ро. Шмат. Ио. Фру. Ихтиорнис. Зазор. Сми. Вал. Подкуп. Курорт. До. «Овод». Майн. Соя. Аут.

## Гараскоп
### на новы тыдзень



**АВЕН.** Тыдзень для Авенаў абяцае апынуцца надзвычай актыўным. Можна шмат што паспець зрабіць для дасягнення жаданай мэты. У пачатку тыдня будуць паспяховыя праекты, звязаныя з мастацтвам і медыцынай. Сярэдзіна тыдня - выдатны час для ліквідацыі разнастайных непаразуменняў. Так што не адкладайце гэту справу ў доўгую скрыню, калі маюцца сямейныя або працоўныя праблемы - спяшайцеся іх вырашыць да наступлення святаў. У канцы тыдня сваякі могуць звярнуцца да вас за дапамогай. Паспрабуйце, па магчымасці, іх не расчараваць, нягледзячы на перадсвяточую мітусню.



**ЦЯЛЕЦ.** У пачатку тыдня ў Цялят намячаецца цікавая дзелавая паездка, якая дазволіць пашырыць круг зносін і адкрые новыя перспектывы. Паспрабуйце вучыцца слухаць і чуць навакольных, і вы запасычыце для сябе шмат цікавага і станеце мудрэй. Магчыма значнае прасоўванне наперад у прафесійнай сферы. Спрыяльны час для дзелавых здзяйсненняў. Паспрабуйце па-філасофску паставіцца да ўнутранай напругі, яна будзе толькі пабочным эфектам сабранасці, якая спатрэбіцца вам для дасягнення мэтаў.



**БЛІЗНЯТЫ.** Наступае перыяд, калі вы можаце з лёгкасцю, адным скачком пераадолець многія перашкоды і бар'еры. Спрыяльны час для наладжвання сувязяў і кантактаў. Ваша абаянне і аўтарытэт могуць апынуцца такімі значнымі, што ваша асяроддзе ўспрыме як належнае ўсе вашы ініцыятывы і прапановы. Другая палова тыдня не дасць падставы для засмучэнняў. Займіцеся падрыхтоўкай да свята, ужо пара!



**РАК.** У Ракаў на гэтым тыдні з'явіцца рэальны шанец ажыццявіць свае задумы, адзінае, што можа перашкодзіць, гэта ваша ўласная мітуслівасць. Усё ці амаль усё вы зможаце рэалізаваць, прадпрымаючы рашучыя дзеянні і выяўляючы лагічную паслядоўнасць. Першая палова тыдня на працы можа быць асабліва насычанай і напружанай, але энергіі і сіл у вас хоць адбаўляй. Пажадана адкласці паездкі і камандзіроўкі. Паспрабуйце для рэалізацыі новых планаў і праектаў знайсці сабе аднадумцаў. У канцы тыдня можаце разлічваць на дапамогу сяброў, вас нарэшце ўсе пакінуць у спакоі і вы паспееце падрыхтавацца да свята.



**ЛЕЎ.** Будзьце ўважлівыя да той інфармацыі, якую можна атрымаць з размоў з навакольнымі, краем вока прагледжаных тэлеграм, балбатні па радыё і іншых даступных крыніц. Не выключана, што ў нейкі момант атрыманыя кавалачкі злучацца ў цэлую мазаіку, і адкрыюць перад вамі новыя перспектывы. Верагодны рост у прафесійнай сферы. У вас з'явіцца шанец авалодаць новымі навыкамі. Прынясіце важнага рашэння адкладзіце да сярэдзіны тыдня. У другой палове тыдня вам прыйдзецца ўзваліць на сябе груз новых абавязкаў і да канца тыдня забыць пра існаванне паняцця «вольны час».



**ДЗЕВА.** На гэтым тыдні вам давядзецца адстойваць свой аўтарытэт і, магчыма, пацвярджаць вашу прафесійную кампетэнтнасць.. Не адцягвайцеся, рабіце сваю справу і заявіце іншым займацца сваімі пытаннямі. Цяпер неабходна працаваць на бліжэйшую будучыню, добры перыяд для пачатку рэалізацыі і зацвярджэння новых планаў. Верагодныя новыя перспектыўныя знаёмствы, а таксама аднаўленне старых, перапыненых адносін. Канец тыдня можа падарыць вам новыя цікавыя ідэі.



**ВАГІ.** Вашых сіл і аўтарытэту можа хапіць на многае, але не варта распыляцца, бо памяці і ўвагі, хутчэй за ўсё, апынецца недастаткова. Сярэдзіна тыдня - удалы час для запуску новага праекту, прэзентацый і для праявздення аўкцыёнаў. У другой палове тыдня сітуацыя, якая склалася, можа запатрабаваць ад вас сур'ёзнасці і засяроджанасці, будзе проста неабходна прадумаць увесь парадак дзеянняў, а затым прыступаць да вырашэння канкрэтных задач. Вам неабходна больш строга ставіцца да сваіх і чужых думак, слоў і ўчынкаў.



**СКАРПІЁН.**Прыйдзецца забыцца пра адпачынак ў перадсвяточнай хатняй мітусні, на гэтым тыдні вас чакае шмат працы. Калі хочаце справіцца з гэтым і павярнуць сітуацыю ў сваю карысць, ад вас спатрэбяцца незвычайная рашучасць і хуткая рэакцыя. Старайцеся не прагнуць неадкладных пераменаў, прыслухайцеся нават да ціхага шапацення сваёй інтуіцыі. Перш, чым што-небудзь сказаць, добра падумайце. Начальства гатова падтрымаць вашы новыя ідэі. Вас чакае духоўны рост і самаўдасканаленне, праўда, для гэтага спатрэбяцца пэўныя намаганні з вашага боку.



**СТРАЛЕЦ.** На гэтым тыдні вы можаце дасягнуць шмат чаго. Паспрабуйце не звяртаць увагі на дробныя непрыемнасці, засяродзьцеся на самым галоўным, не варта марнаваць каштоўную жыццёвую энергію на дробязі. Цяжкасці бягучага перыяду не настолькі вялікія, каб закочваць істэрыкі, яны цалкам пераадольныя. Старайцеся не прапусціць важную інфармацыю, яна можа прыйсці да вас самым непрадказальным чынам. На працы вам прыйдзецца разлічваць толькі на свае сілы, Вы даможацеся поспеху і без старонняй дапамогі. Выхадныя і святы пажадана правесці за горадам, у коле сям'і і блізкіх сяброў.



**КАЗЯРОГ.** Назапашаныя сілы спатрэбяцца для інтэнсіўнай і плённай працы, толькі бярыце нагрузку суразмерную. Будзьце рэалістычныя, сіл-то, можа, і хопіць, але часу ў сутках больш не стане. Абвостраная праніклівасць будзе спрыяць дзелавому і прафесійнаму поспеху. Не здавайцеся пры першых цяжкасцях, вы можаце быць ветлівыя і настойлівыя, а менавіта гэтая тактыка - ключ да дасягнення мэты. У другой палове тыдня верагодна прапанова, якая расчыніць перад вамі новыя дзверы. Аднак у канцы тыдня лепш абмежавацца дробнымі бягучымі справамі і не замахвацца на большае. Побач з блізкімі людзьмі вы адчуеце ўпэўненасць у сваіх сілах і магчымасць увасобіць свае задумы ў жыццё.



**ВАДАЛЕЙ**. Займіцеся зборам інфармацыі, вывучэннем спецыяльных дысцыплін, не саромейцеся кансультавацца ў спецыялістаў. Не хвалюйцеся, калі вашы планы ўвасабляюцца з дакладнасцю да наадварот. Паспрабуйце выкарыстаць сітуацыю, якая склалася сабе на карысць - напрыклад, змяніце намаганнем волі тыя самыя злапомныя планы. З-за залішніх апусканняў у працоўныя праблемы, вы можаце ўпусціць важныя дэталі.. Больш давярайце сваім адчуванням, яны вас не падмануць. У першую палову тыдня пажадана не пачынаць нічога новага, а важныя сустрэчы перамясціць бліжэй да выхадных. Не забывайце, што далей лавіна святаў і выхадных.



**РЫБЫ.** Вас чакае добры тыдзень, будуць раптам узнікаць і рэалізоўвацца спрыяльныя магчымасці. Вырашайце ўсе справы без мітусні і паспеху. Не лянуюцеся звярнуцца да мінулага досведу і здарова сэнсу, прымаць рашэнні з нуля вас ніхто не прымушае.
Неабходна праявіць ініцыятыву і смеласць. У рашучых дзеяннях вам спатрэбіцца падтрымка калег па працы, сяброў і сваякоў. У сярэдзіне тыдня вы можаце распачаць мадэрнізацыю працоўнага працэсу. На гэтым тыдні выявіце максімум вытрымкі пры зносінах з дзецьмі.


ISSN 2077-8023




«Вольнае Глыбокае»
**Заснавальнік:**
Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 25.12..2012 г. у 20[50]
Наклад 2200 паасобнікаў



**Рэдактар:**
Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 2-46-14;
**E:mail: vglybokaye@tut.by**
Адрас для допісаў:
**211800, г. Глыбокае, п/с №3**



**Замова 1122**

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.

Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. №02330/0150475 ад 25.02.2009
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае